

***ТОЛЬ В. (ТРАФІМЧЫК Анатоль)*** *нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Кругавічы Ганцавіцкага раёна. Скончыў філфак Брэсцкага дзяржаўнага педінстытута, працаваў настаўнікам у Дзяніскавіцкай СШ. Цяпер вучыцца ў аспірантуры НАНБ. Друкаваўся ў часопісе "Маладосць" і іншых выданнях.*



**ПСЕЎДАНІМ Віталь (ЧАБАТАРЭНКА Віталь)** *нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Шашкі Ганцавіцкага раёна. Закончыў Брэсцкі дзяржаўны педінстытут, працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Малькавіцкай СШ. Служыў у войску. Друкаваўся ў часопісе "Маладосць" і іншых выданнях.*

## *Набістыка — ад воклічу “На біс!”*

### *Постмадэрнізм вачыма рэаліста*

*Стагоддзе, як і дрэва, прарастае гадавымі кольцамі, і калі гэтыя гадавыя кольцы, расцягнуўшы па акружнасці, скласці разам, атрымаецца велізарнае кола, у якім пачатак і канец стыкаюцца плаўна, амаль незаўважна. Тым самым пацвярджаецца чыясьці мудрасць: усё паўтараецца, усё вяртаецца на свае кругі. Яшчэ Максім Горкі заўважыў, што ў часы жабрацтва, смуты, разбурэння чалавечага духу за пяро не бяруцца хіба толькі лянівыя ды нямоглыя, а колькасць, бывае, і надта таленавітых творцаў расце няйнакш як у геаметрычнай прагрэсіі. Так было ў эпоху Сталыпіна. Тое ж назіраецца і сёння: жабрацтва, смута, разбурэнне маральных асноў грамадства, незалежна ад таго, хто іх дыктуе вялікім і малым народам планеты. Варта згадаць таксама няўхільны рост патоку інфармацыі, пастаяннае ўдасканаленне камунікатыўных сродкаў, што паслужыла надзейнай базай для пагалоўнай адукаванасці насельніцтва і што, у рэшце рэшт, справакавала ў маладых пісьменнікаў патрэбу згуляць у падкіднога, дакладней, у літаратуру, згуляць наўдачу, без якой-небудзь значнай групы падтрымкі, не часта маючы на руках казырнага туза, але пры азартнай карцёжнай гульні заўсёды шмат гвалту, шуму і крыку.*

*Безумоўна, на пустым месцы нічога не бывае. Кожная літаратура калі-небудзь, як і чалавек, павінна перагібець сваімі дзіцячымі хваробамі, – тым жа адзёрам, свінкай, коклюшам. Суседняя, руская, паласаценькі дэкадэнцкі халат паспрабавала апрануць яшчэ на пачатку веку, і з таго моманту бедныя студэнты бязбожна і з лёгкай душой блытаюць футурыстаў, сімвалістаў, імажыністаў і процьму іншых “істаў". Карабель жа сучаснасці між тым як плыў, так і плыве ў неабсяжным літаратурным акіяне, трымаючы буйнымі калібрамі на дастатковай адлегласці слаба абароненыя шлюпы постмадэрнізму. Але якія былі флібусцьеры! У. Маякоўскі, А. Блок, С. Ясенін, М. Гумілёў ды яшчэ добры дзесятак амаль роўных па рангу бунтароў. Менавіта гэта яны бралі на абардаж непатапляльнае судна, нават не падазраючы, што самі застануцца на ім векавечнымі матросамі.*

*Бунтоўны дух і капрызныя дзіцячыя хваробы ў той ужо далёкі час, на жаль, абмінулі беларускую літаратуру, бо яе карабель сучаснасці, можна сказаць, толькі закладваўся на стапелях, пад якімі трэба разумець пісьменніцкія сталы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Спробы абнаўлення, вядома, былі і ў нас, калі згадаць маладнякоўцаў, а з разрывам праз дзесяцігоддзі — "Тутэйшых" яшчэ пазней – слабы, але свежы вецер пры апушчаных ветразях. Ці ж прымусяць судна рухацца новыя флібусцьеры ад постмадэрнізму? Са спазненнем, бадай, на цэлае стагоддзе адзін іхні*

*шлюп з красамоўнай назвай "Бум-Бам-Літ" з'явіўся і ў тэрытарыяльных водах беларускай культуры, аб сваім набліжэнні абвясціўшы не перазвонам карабельнай рынды, а груканнем у дно звычайнага бляшанага тазіка. Што ж, пошук страчанага ідэала можна весці і такім чынам, бо за смелы пошук і эксперымент не судзяць, хоць, зрэшты, і не чапляюць медалёў. Напэўна, і самі сябры гучнай літаратурнай суполкі яшчэ не ўяўляюць, па якой лоцыі ім плысці заўтра, аднак выразна ўжо акрэсліўся галоўны напрамак у іх творчасці – іронія, сарказм, едкая сатыра, і гэта даволі сур'ёзная літаратурная з'ява нават у тым сэнсе, што шумныя імпрэзы "бумбамлітаўцаў" перасталі ўспрымацца, як добра арганізаваная мастацкая самадзейнасць.*

*Постмадэрнізм, грунтуючыся перш за ўсё на высокай кніжнай эрудыцыі творцаў, гэта значыць другаснасці жыццёвага матэрыялу, рацыяналістычны па сутнасці, жанрава цяжкавызначальны, ды ўсё ж і ён мае шэраг адгалінаванняў. Поліфанія тэкстаў, гукаў, расплывістасць формы і зместу ды зноў жа, як і пры той карцёжнай гульні, шум, крык, адчайныя спробы звярнуць на сябе ўвагу. Даўно не бянтэжачыся масавасцю прадстаўнікоў беларускага дэкадансу, нават дзіўна, што з'явіўся яшчэ адзін напрамак постмадэрнізму – набістыка. І выплыў ён не з любімай маладымі літаратарамі "Эўропы", а з ціхага, незабытага Богам краю – ганцавіцкага Палесся. Новы напрамак постмадэрнізму прыдумалі двое таленавітых хлопцаў – Толь В. (Анатоль Трафімчык) і Віталь Псеўданім (Віталь Чабатарэнка). У эпісталярнай дэкларацыі мала яшчэ каму вядомыя паэты абвяшчаюць сваё творчае крэда: галоўны крытэрый – пісаць добра, таленавіта, нават пішучы кепска, трэба пастарацца напісаць добра і таленавіта кепска, каб тое, напісанае кепска, нікім не змаглося напісацца яшчэ горш; тэарэтычнае афармленне нашага напрамку пачынаецца ўжо з яго назвы (кажам для тых, хто не звярнуў увагі), якая змястоўна адлюстроўвае ўсё, што вы хочаце знайсці ў нашых а-шэдэўрах (і нават тое, чаго вы не хочаце, і нават тое, чаго мы не хочам, і нават тое, чаго яны не хочуць, і нават не тое).*

*З родапачынальнікамі літаратурнага накірунку набістыка можна паспрачацца аб існаванні нейкай альтэрнатыўнай паэзіі, але іх агульны зборнік, які выходзіць у папулярнай серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць", безумоўна, выклікае ў чытачоў цікавасць.*

*Віктар ГАРДЗЕЙ*

**В. ТОЛЬ**

# ПАСВЕДЧАННЕ АБ НАРАДЖЭННІ

Вершы

◆

Цягнік наш у заўтра не йдзе.
Прыпынкі яго — не гады.
Турбуе пякучае “дзе?”,
Хвалюе пакутна “куды?".

Мне хочацца ведаць “чаму?”.
Ніяк не спасцігнецца “як?”,
І не абміну я чуму.
Нас цягне цягнік, а ці так?

Аднак я з гаротнай зямлі
Яшчэ паднімаюся ўвысь.
Каб толькі не знікла “калі?”,
Зрабіўшыся посным “калісь”.

◆

Пражыты дзень —
        мая errata[1].
А свет наш — цень
        Яго тэатра.

Статыстам я
        на тым памосце.
Мы ўсе — сям’я,
        і ўсе мы — госці.

Ангажэмент —
        наш горкі fatum,
І помнік-стэнд
        адзін на брата.

Дарогі — ў Рым
        убок ні кроку.
Усе згарым
        аж да прарока.

Ab ovo[2] і —
        ужо finita[3],
Ды салаўі,
        ды бляск граніту.

[1]Позна заўважаная памылка *(лац).*
[2]З пачатку *(лац.).*
[3]Канец *(лац.).*

Не бачу вы-
        хаду з палону,
Крычыце вы
        хаця б да скону.

Дакажа ўсім
        адна касілка:
Не вечны Рым,
        жыццё — памылка.

## Я — АДНО

Трыялет

Інфармацыі голад — аж пухнуць мазгі,
І быццё вызначае свядомасць.
Як шкада, гэта ўсё ўжо вядома:
Інфармацыі голад — аж пухнуць мазгі.
І свядомасць — на мыліцах і — без нагі,
І гучыць гэта як аксіёма:
Інфармацыі голад — аж пухнуць мазгі,
І быццё вызначае свядомасць.

◆

*ВАКУЛІЧУ Мікалаю*

Жизнь, по-моему,
это дарёный конь.
Д. Сэлинджер. Тэдди.

У мяне ў кішэні драма.
Памяняць хачу яе
Я на яблык у Адама,
Ды ў ёй дзеяў не стае.

А да яблыка далей шчэ,
Чым ісці за далягляд.
Стала б тая драма вершам,
Вершык несці быў бы рад.

Стала б тая драма фарсам
Ці камедыяй якой.
Ды да фарсу, бы да Марса,
Мы ж прыгнечаны зямлёй.

Тая драма — падарунак,
Нельга ў зубы ёй глядзець.
Лепш з дзяўчынкай, вабнай, юнай,
Драматычна пасядзець.

◆

Гарсон! Мне піва двойчы, калі ласка!
Твой бар, бы глобус; куфель на стале,
Як маладосць, як для цнатліўца ласка.
Гарсон! Мне піва двойчы, s’il vous plait!

Гарсон, закусваць сёння мне не трэба.
Хоць грошай я не буду шкадаваць,
Відовішчаў хачу я, а не хлеба,
Я ў бар сюды прыйшоў не паміраць.

Мне падабаецца такая атмасфера
Тутэйшага юрлівага святла,
Дзе не відаць ніводнага бар'ера,
Адкуль часовасць назаўжды сплыла.

Гарсон! Я пачынаю хвалявацца:
У куфлі пена паказала дно!
Ратуй! Ратуй, гарэзлівы мой братца!
Я сёння з вамі ўсімі заадно.

Гарсон, прабач, але чаму ты ў белым?
Змяніў бы на стракаты свой фасон!
І гэты расцудоўны вечар цэлы
Мы песнямі стваралі б унісон.

Адклаў бы ты навечна ўсе прыборы,
Якія на вясковую касу
Падобны, бы вады дзве кроплі ў моры,
Дай бацьку накляпаць іх занясу.

◆

Падпольны бар гудзе
марыхуанай,
Аж юр па барадзе
спаўзае п’яна.

Бурштынавы анёл
стрыптыз паказваў.
Дазволіў ХТО свавол
пад іншай назвай?

Не прагучыць дакор.
Пасля... Няскора...
Ламаецца танцор.
Шкада танцора.

Адвечны суперсплін
на сінім твары.
Скупілі ўжо бурштын
анёльскі скнары.

А без адзення той
анёл стаў шэры.
Не знойдзе аналой
праданай веры.

Хоць ён на ім стаяў,
стаяў калісьці!
Ды выракся з-за траў
ілжэкарысці.

З паэзіі прыйшоў
да горкай прозы...
...Салёныя, бы кроў,
бурштынавыя слёзы.

◆

Паслухай маленькага сноба
і ніякіх высноў не рабі,
Маўляў, што такая хвароба,
Што маюць свабоду рабы.

Свядомасць рабоў існавання
Звальняе падтэкставы рух,
А існасць свядомага рання
Раўняецца існасці шлюх.

Адказы такіх матэматык
Адзін ужо немец разгроб,
А я тут не вінаваты, —
Маўчы, постмадэрнавы сноб.

## СТАНСЫ

Я не істота і не здань —
Не паддаюся тлумачэнням:
І як ні сядзь, і як ні ўстань,
Хімерыць ваша вымярэнне.
Талмудна падагнаны час —
Оталарынгалагіята —
Істэблішментны скача джаз, —
Ямбічным рытмам бавіць ката.
Наўзрыд, нахрапам і наўскач
Евангелістамі ўсе сталі.
Ды хоць крычы, танцуй і плач,
Лексічна ты па-за маралі.
Ярмо лягло на штучны люд.
Высокага няма карэння.
Адэптна стаўлю свой статут:
Статычна ваша вымярэнне.

ПЕРШАЕ ЛЕТА Ў МІНСКУ

Ходзяць дзяўчыначкі,
марляй прыкрытыя,
Ходзяць цнатлівыя
і не зусім,
Ходзяць прыгожыя,
Богам забытыя,
І кракадзільчыкі
з хлопцам сваім.

Ходзяць танклявыя,
ходзяць і мажныя,
З ножкамі доўгімі
ходзяць і не,
Ходзяць і простыя,
ходзяць і важныя,
Ходзяць і ходзяць, ды
не да мяне.

Свіцяцца штонікі,
свіцяцца станікі,
Свеціцца вочак вясёлы блакіт.
Светачкі, Леначкі,
Ганькі і Танькі —
Ўсе на адлегласці
дзесьці рукі.

Ходзяць дарослыя,
ходзяць і юныя,
Што любавацца —
ужо крымінал,
Ходзяць вясёлыя,
ходзяць і сумныя, —
Розным прызначаны
мой мадрыгал.

Мілыя, родныя,
вельмі жаданыя,
Покуль вы будзеце шпацыраваць,
Мне усміхацца
як апантаныя,
Не перастану
вас я кахаць.

ВЯСЕННІ БЛЮЗ

У рытмах вясенняга блюзу
Складаю жаданні свае,
І сонечны пogляд ільe
Мне ноты найлепшае з музык.

І танчыць асфальт пада мною,
Трапляючы ледзьве у такт,
І піша нябачны мастак
Не фарбай, а пекнай вясною.

Вятрыска матывы асвежыць
Акордам юначай пары,
Які ты на слых падбяры
І выйдзі за рамкі і межы.

І выйдзі ў адкрытае мора,
Русалку са дна спакусі,
Зрабіўшыся раптам для ўсіх
Калумбам і блюз-дырыжорам.

І казка рэальнасцю стане
Да самых магчымых распуста
Пад гэты няўрымслівы блюз
Народзіцца суперкаханне.

◆

Канае ноч барвовым даляглядам.
Плыве мой час. Ну што сказаць? Плыві!
Канае ноч барвовым даляглядам —
Калючай церпкай боскае крыві.

Мальберт прытуліць фарбы ў стылі рэтра
І згарыць. Ну што сказаць? Гары!
Такі пажар не сапсуе паветра.
Мальберт прытуліць фарбы да пары.

Мальберт парваць мы з Ёю захацелі.
Я Ёй сказаў (а што сказаць?): парві!
Мальберт ёсць дэкарацыяй пасцелі
Са следам церпкай боскае крыві.

◆

Я чакаў цябе тамака, я чакаю вось тутака,
Пан’юрліваю смагаю перасохлі мазгі,
Патрыёткай адданаю ты прыйдзі ўсё ж ціхутка,
Беларускаю моваю мо пазбавім тугі.

Праспяваем народную ці “Раманс” Багдановіча
Ці раскажам гісторыю пра часы БНР,
Я ж паведаю, любая, аб Вялікіх Круговічах,
Аб Вялікіх Круговічах, скуль пішу я цяпер.

І якое прывабнае, і якое прыгожае
Наваколле палескае ад зямлі да нябёс,
Не стае толькі гурыі — замяніць яе зможа

Беларуская фацыя — для цябе такі лёс.

Я хачу цябе тутака, у Вялікіх Круговічах,
На прыродзе разложыстай ад душы закружыць
І пад зоркай любімаю песняра Багдановіча
Буду жыць з табой, мілая, пяць хвілін буду жыць.

Але ж дзе патрыётачка з вельмі смелаю знешнасцю,
За якою стаілася падазронае "бел."?
Падалася цнатлівая, толькі вонкава грэшная,
У пару фантастычную, у сваё ВКЛ.

ТРЫЯЛЕТ

Давай наладзім свята плоці —
Заву няздзейсненую мару.
Каб закіпела кроў ад жару,
Давай наладзім свята плоці.

Я разбіваюся на ўзлёце,
Паўзу, ды ў тым лячу, што мару.
Давай наладзім свята плоці —
Заву няздзейсненую мару.

◆

*Полю ЭЛЮАРУ*

Тугою часу ляжыць экватар
І душыць глобус — Еўропе боль.
Баюся, хутка старая хата
Пакіне попел — быцця пароль.

У поўнач поўна чыісьціх мараў,
Разбітых лёсаў — пракляты час.
І ціснe глобус такім цяжарам,
Сябе губляе, а значыць — нас.

І заўтра, можа, з нас будзе попел,
Аналагічны, бы з нашых хат.
Нам не падорыць памінак кропель
Крыніца праху — ўсявышні кат.

Дванаццаць хутка. Заснула птушка.
Метамарфозаў тых гумар — дрэнь...
Не каралеўна, а — Папялушка
Мяне сустрэне і новы дзень!

◆

Я — такі неандэрталец.
Фібрамі душы сваёй

Адчуваю кожны палец
Цела, што завём зямлёй.

Ты — такая краманьёнка.
Але й пара вышла б з нас.
Ды не станеш ты мне жонкай —
Інфантыльны проста час.

Паяднае нас магіла.
Там хранометраў няма.
Буду мілым, будзеш мілай
І з адсутнасцю імя.

І не будзе ў нас расколаў,
Сваркі наш не знішчаць прах...
Не знайшоў бы археолаг
Тут касцей архіпелаг.

◆

Мяне будуць любіць незнаёмцы,
У вагоне завёўшы размову,
Бо маўчаць са мной будзе няёмка,
Але гэта між іншым, да слова.

Мяне будуць любіць дзяўчаты
І кахаць — не падумайце кепска, —
Я вадзіцьму іх на гарбату,
Прыхаваўшы за пазухай кепства.

А глядзецьму я не скрозь прызму
Знакамітых Ізольды й Трыстана,
Што пазбеглі святога цынізму:
Я любіць і кахаць перастану.

◆

На гладкай паперы пісаць не люблю,
На гладкай не пішацца гладка,
Гараю ўручную Парнаса раллю,
Хаця замест плуга — асадка.

Не ўбачыце вы ні квітнеючых ніў,
Ні поглядаў гожых валошак,
Не ўбачыце сена, што я накасіў, —
Няважкая быццам бы ноша.

Заўжды застаюся з мякінай зімой,
Худобу вяроўкай трымаю,
Ледзь-ледзь дацярплю да вясны да самой
І да лебядзінага маю.

Гараю, гараю, тараю дарма,
Гараю, а можа, гарую.
Бо вынікаў тое работы няма,
Работу мо выбраў не тую.

Куды ні кінь вокам — адны камяні, —
Збіраю прэзенты Сізіфа,
Якога хоць раз за жыццё памяні
Ў рэальнасці нашага міфа.

І гладкасці доўга яшчэ не знайду
Ні тут, ні ў другім вымярэнні,
І зноўку чакаю сваю лебяду,
Збіраючы вечна каменне.

◆

*М. М. М.*

Мы ўсе, паэты, — дзівакі
Ад дотыку Яе рукі,

Ад погляду Яе вачэй
Юрлівасць думак апячэ,

Ад паху чыстага Яе
Дыхання ў лёгкіх не стае,

У рытмы сэрца ўносіць шок
Яе сінхронны лёгкі крок,

Хмяліць не толькі пашляка
П'янкі абрыс Яе смачка, —

А мы, паэты, — дзівакі,
Аб чым і пішуцца радкі.

◆

*Леаніду ДРАНЬКО-МАЙСЮКУ*

На душы — маленечкая ранка,
Ды яе не вылечыць урач.
Толькі маладая куртызанка
Мне суцішыць мой стракаты плач.

Хоць і не на доўгую хвіліну
З той ультражыццёвае ракі
Вырвуся, не забяру, пакіну
І забуду вершыкаў радкі.

Ды мяне ізноў ва ўсякім разе
Нейкай сілай падштурхне да вас:
Хоць я забываюся ў экстазе,
Толькі з вершам экстра мой экстаз.

Бо пасля, успомніўшы як прыкрасць
Тых маіх паводзін прымітыў,
Чую паэтычную нязвыкласць,
Адваротны пішучы матыў.

Так жыву: у некалькіх сюжэтах
Маю не адзін сапраўдны твар
І сябе шкадую не паэта,
Не шкадуючы сваіх ахвяр.

Так патухну, як патухне сонца,
Я мінуся — бедны імартэль[1].
Як гарэць, то ўжо гарэць як творца,
А згасаць — хаця б як Рафаэль.

◆

*Алесю КУРЦУ*

Апошні верш апошняе пары
Апошняе апошнасці апошню.
Перакулю ўсё знізу дагары,
Нат каласок не кіну я на пожню.
Заганьбілі паэта-бедака!
За што ж яго згубілі ліру-ніву?!
Апошні раз апошняя рака
Адпошніла дзянькі свайго разліву.

## КРОПКА Ў КАНЦЫ НЕ ТРЭБА

Мне здаецца,
што я даўно не атрымліваў
сакральных цыдулак.
Ды не,
я наогул іх не атрымліваў.
А хіба я адзін?
Не я адзін.
Ніхто не атрымліваў
сакральных цыдулак.
І не атрымае,
бо гэта,
як і многае іншае, што немагчыма, —
немагчыма.
Але мне чамусьці ўсё роўна здаецца,
што я даўно не атрымліваў
сакральных цыдулак,
мусіць, таму,

[1] Бяссмертнік.

што сапраўдная назва гэтага твора
“Мой стан”

◆

мой
верш
зноўку не пра
цябе
Віталь Псеўданім

На плыні свядомасці хвалю
асацыятыўных падзей
адношу да жорсткага жалю
радзей... радзей...

Скрозь ratio сунецца хворы
кахання няўлоўны прамень,
ды тухнуць шчаслівыя зоры
ласкавых жмень.

Знікаюць салодкія смакі,
у час раствараецца пах,
банальнай сугучнасці “макі”
няма ў слязах.

І складна аб адваротным
складаны складзецца радок,
бо ўжо не вярнуць гаротным
іх кепскі зрок.

◆

Хутка восень. Каркаюць вароны...
А. ПЫСІН

Хутка восень. Каркаюць вароны,
Куранят пужаючы ў траве.
Ад атавы луг ізноў зялёны,
Ды цялушка нечага раве.

Чуе, што здадуць яе на мяса,
Як не хопіць сена да вясны,
А пакуль што ходзіць самапасам,
Спамінаючы начныя сны.

Разумее, што яшчэ жывая,
І рыкае новы свой куплет...
Дыялектну форму ужывае
Хараством замучаны паэт.

УСПОМНЕНАЕ РЭХА

Як быццам пасвятлела неба ў шатах,
І просінь рвецца ўжо з абдымкаў хмар.
Па-над галовамі ялін кашлатых
Раскінуў пырскі сонечны ліхтар.

Крыніц лясных нявысмаглае рэха
Мне вее сон, нібы дурман-трава.
Слязінай чыстаю буйных арэхаў
Праплакала пужлівая сава.

Губляю слых у шэлесце лістоты,
Абрысы рэчаіснасці гублю.
І ўжо не я, а незнаёмы хтосьці
Рукой стамлёнай гушкае Зямлю.

Плывуць удалеч перазваны рэха,
Забыты ўсімі, дагарэў агонь.
І дзесьці ў памяці скрозь слёз арэхі
Ляціць у май з дзіцячых казак конь.

◆

Горад мой, невядомаю сцежкай
Ты у сэрца маё увайшоў
Ці то ўсмешкаю нечай,
Ці то злосцю ў вачах алкашоў.

Па тваіх непадмеценых вуліцах
Я блукаў сотні раз, нібы цень.
І ў вачах канфармісцкае публікі
Пачынаў спакваля вар'яцець.

Ёй наўздзіў, было, пад таполямі
Я кружыў; кожны ўзмах рукі,
Шчасцем сцішаным перапоўнены,
Абывацельшчыны рваў ланцугі.

А я жыў, любаваўся прыродаю
І травой, што ўзламала бетон,
Бо такою ж мне быў перашкодаю
Слепаты той людскае сезон.

## З ДЗЁННІКА ДРЫГАВІЧА

Я люблю дзяўчыну-азіятку —
Рускай і татарскае крыві.
І на ўсход таму скачу наўзгадкі
Лесам пракаветным з Кругавіч.

І хаця мінуў свае заставы
І не чую голасу сурмы,
Сцерагуся ў кожны міг атраўленай,
Кругаўлянкай пушчанай стралы.

Сцерагуся шчэ й яцвяжскіх пастак:
Лоўчых ям, цянётаў і сілоў —
Дзеля аднаго, каб зноў дапасці
Азіяцкіх персяў і клубоў

І каб дальш усё пусціць па плану:
Конь — на пашу, латы — на траву,
А сваю каханку на бархане
Адкахаць і знесці галаву.

◆

Холадна і марозна —
Ведама, бо зіма.
Я прачнуся цвярозым
Дзесьці на ўскрайку сяла. -
Месяц свяціў, і зорна
Пад ранне трымцела ноч.
Віно з бутэлькі узорнай
Паціху пацягваў мароз.
Шапталі аб нечым ліпы,
Дзве, а хутчэй адна,
Калі аскепкі разбітай
Шклянкі я паднімаў.
І тут зразумеў, што цвярозы,
Што гэта ўжо стыне кроў.
З гарла пацягнуў з марозам
І моўчкі паклыпаў дамоў.

## МУЗАВЕРШ

мой
схоў
гэта не твой
дом
нават не твой
дзень

мой прыжыццё-
вы том

мой
верш
зноўку не пра
цябе
най-
перш
добрай п'янкой
журбе

мой
страж
не твой шляхе-
тны стан
мой
паж
рытмікі а-
кіян

твой
схоў
гэта і мой
настрой
на-
строй
рытмы сваёй
ігрой

Нехай
рухі цары-
цаў гейш
чы-
тай
недапіса-
ны верш

ВАКХАНАЛЬНЫ ПРАРЫЎ

У эквілібрыстыцы крокаў
Твой не суцішыцца дзень,
Нават калі тваё вока
Зліжа няўрымслівы цень.

Нават калі твае рухі
На дол вужавіннем спадуць

І апляце твае рукі
Каларатурная[1] муць.

У эквілібрыстыцы крокаў
Ценькі узвіхрыцца Вакх,
Вокны успеняцца ў кроквы,
Рыкша свой вывезе прах.

## ІНТРАДУКЦЫЯ
## ДА НЕНАПІСАНАЙ ПАЭМЫ

Мой новы верш,
трынаццаты па ліку,
завершыць цыкл
і зложыцца ў паэму,
дарэчы, першую,
калі не ўлічваць
ненапісанага пра Вас
Маэмам,
паэму без канца
і без пачатку,
у стылі лепшых
набістычных вершаў,
дзе будзеце Вы
проста апячаткай
ці нават не —
паэмай незавершанай.

## НЕНАПІСАНАЯ ПАЭМА

кінь каханую і у сваё каханне
закахайся й вершам апішы
тое як табе эскізным раннем
пра каханне пішацца ў цішы
як даўно ў тандэтным бельведэры
маладой набісткі вальтыжор
прагна дабіваўся і не верыў
што ужо калісьці ён памёр
што рэмаркі двух апошніх вершаў
арабескі ў стылі ракако
кінь каханую і паспрабуй завершваць
стансы панфантазіі такой

[1]Каларатурны — віртуознае, тэхнічна цяжкае меладычнае ўпрыгожанне ў вакальнай партыі.

◆

Я трынаццаты ў Месяца месяц,
Вы ягоны заўсёдны настрой,
Што звычайна завершвае вершам
І зыход сітуацыі той,
Калі ноч запаўняецца вокнамі
І дарэчы ягоны ліхтар,
Бо адзіны ён, хто, самотніцу,
Дасканала Вас ведае ў твар,
І адзіны, хто станецца знакам
На паперы той ночы, якой
У вачах Вашых колеру смаку
Адаб’ецца і мой неспакой,
Што трынаццаты ў Месяца месяц.
Я зусім не ягоны сябрук,
Бо над хатай яго і павесіў,
Каб хутчэй як прабіцца у друк.

СЯБРА СУСВЕТУ,
АБО
НЕНАПІСАНЫ ВЯНОК САНЕТАЎ

...і найлепшая навіна
ад хранічнага неапаэта:
за пятнаццаць хвілін давідна
прысвяціць Вам вянок санетаў,

дзе дэбют мой і мой фінал —
Вы — дзяўчынка і Вы — кабета,
і дзе нейкі бязвусы юнак
кажа “ты” проста ў вочы Сусвету,

пасылае яго, потым нат
разам смаляць адну цыгарэту...
Ясна панна, дазвольце віна
з рук найлепшага сябра Сусвету.

◆

Апошні фом растаў у маладзік,
Рассеяў дождж па лабірынтах ночы.
Лязом зары на целах маладзіц
Вар’яцкі верш я напісаць ахвочы.

Ад іхняй нерастрачанай пяшчоты
Мой цень да дня не змог працверазець:
Ахрыплым голасам пяе па нотах
Сентыментальна-сексуальны верш.

Кружляе ліст не фігавы — кляновы,
Пашэрхла заінелая трава.
І маладзіцы зноўку дораць словы,
Такія, што кружляе галава.

## ГНОМІК

Адзінокі гномік
З шэрымі вачыма
У мяне пытае,
Хто мая дзяўчына.

Што яе усмешка,
І ці сам я помню
Вастрыню каленцаў
З халадком далоняў?

І як часта сняцца
(І ці пэўна ноччу),
Водар яе цела,
Колер яе вочак?

На маё "не помню",
На маё "не знаю"
Адзінокі томік
Бліжай падсядае.

Кажа, я нядобры
І хлушу нячынна...
Зрэшты, так, бо томік
Ёсць мая дзяўчына.

## СЮЖЭЦІК

Месяц на небе аладкай
Стыне, і зор не відно.
Ноч афрыканскім азадкам
Лезе ў маё акно.

Плішчыцца ў холад шыбаў,
Кажа пра новы верш,
Нечы раптоўны выйгрыш,
Гэты пакой, і найперш,

Што нас у пакоі двое —
Ты і паэт-набіст,
І мы ва ўнісон з габоем
Кахання схацелі на біс,

Што дзве філіжанкі кавы
Застылі ў трагічнай журбе...
Прабач, цыяністы калій
Я ўсыпаў толькі табе.

◆

Банальны верш
я напісаў
апоўдні:
ён не пра тое,
як мы елі мухаморы,
і не пра тое,
як ужо на поўдні
спакусіліся Вы
на угаворы
пазіраваць ля Вечнага агню
для будучых шэдэўраў ню.

Банальны верш
апоўдні напісаў я
пра тое,
як мы мухаморы елі...

◆

Зараз упэўнены: Вы мелі рацыю,
Калі казалі, што мой настрой
Ў імкненні сваім да афектацыі
Губляе спадзеў на далейшы спакой.

За выстылай шыбай размаісты глобус
Прыцягвае месяца сумны пагляд.
І хочацца мне, каб апошні аўтобус
Разбіўся аб Вашых вачэй далягляд.

◆

На пачку цыгарэт з акцызнай маркай
Пішу партрэт Ваш болей за паўдня.
І хоць здаецца мне работа марнай,
Рукі узмах не ў сілах пераняць.

Гаркавы дым танцуе над цыгаркай
Нязнаны танец, што наўрад ці б змог.
Я ў колер валасоў і воч цыганскіх
Упісваю адзіна слова “Бог".

І вось пішу, непадуладны волі,
І пах забыты Вашае рукі,
І смех іскрысты, што ужо ніколі,
Акром мяне, не ўспомняць мастакі.

І погляд Ваш, чулліва-пранікнёны,
і мокрых валасоў халодны бляск,
І гукі, што не ладзяцца ў імёны
З прысутнасцю акурка, што пагас.

І тае дым апошняй цыгарэты,
З акцызнай маркай пачак ад рукі,
Скамечаны, выслізвае, бы ў сметнік,
У воды высмаглай, атручанай ракі.

◆

Сустрэчу з Вамі зноўку прадчуваю,
Я сёння бачыў Вас у выстылым акне:
Далёка, ўскрай вёскі, незямная
Ў сваёй красе, ішлі Вы, як здалося мне.

А я стаяў, рукой на падаконні
Выпісваў з памяці забытае імя,
І гук, што манатонна конік
Выцягваў, слых мой абрамляў.

Рассейваўся туман, нібыта ў чоўне
Плылі Вы над стамлёнаю зямлёй,
І валасы халодныя з адлівам чорным
Гарэнне Ваша паяднаці й мой спакой.

І хораша было, так лёгка дыхалася
Цяплом з-пад Вашай мяккае рукі.
Ажно хмялеў, і ўжо рака заблытвалася,
Нібыта ў павуцінне, ў берагі.

І цесніўся пакой, і незямная
Пяшчота ахінала сэрца мне.
Сустрэчу з Вамі зноўку прадчуваю,
Я сёння бачыў Вас у выстылым акне.

◆

У Вашым горадзе дажджлівае надвор’е,
Як і раней, прамоклы вецер рве арэлі.
І на каленях Вашых невылечна хворы
Ўсё той жа кот, з ляноты ачмурэлы.

І гэтак жа нязмушана сваёй рукою
У шэрсці блытанай, нібыта ў валасах
Маіх, душа Ваша нацятая спакою
Сабе шукае, як шукае выйсце Млечны Шлях.

Такі ж настрой, па-восеньску задумны,
У горадзе маім, прыдуманым не Вамі.
А той пакой, дзе й зараз Вам утульна,
Мне зрэдку сніцца доўгімі начамі.

◆

Пазычыўшы ў восені вочы,
Іду, падмінаючы даль,
Туды, дзе на ўскраіне ночы
Дзень прыпадніме вуаль.

Прэлых лістоў вужавінне
Цішыць няўрокам хаду.
Пахам балот журавінавых
Я ў гэты дзень увайду.

Каб на узлёце чмяліным
Кроплю нектару з галін
Зняць і радком элегійным —
У жураўліны клін.

І каб чуцён быў уночы
Мой аганічны крык,
Пазычыўшы ў восені вочы,
Пазычу ў прыроды й язык.

◆

Мой лепшы дзень у шклянцы кавы,
Нібыта ў восеньскай смузе,
Растаў пялёсткамі туману,
Згубіў настрой — і дождж ідзе.

І дождж цалуе звар'яцела,
Нахабна лезе за каршэнь.
І парасон бліжэй да цела
З рукі выслізвае ў кішэнь.

Мой лепшы дзень у шклянцы кавы
Самотным ценем лёг на дно.

Для Вас даўно ўжо нецікавы,
Ён для мяне найлепшы Бог.

Мой лепшы дзень...

◆

Чаго вы кружыце над лесам, журавы?
Кругі ўсё шырай, шырай разыходзяцца,
І ўжо не ловіць вока журавін
На купінах травы мурожыстай.

Ужо курлыканне вярнулася назад,
Гуллівым пошчакам збудзіўшы цішыню.
Ужо вячэрні, шэры далягляд
Не першы клін птушыны праглынуў.

Навошта вы вярэдзіце душу
Расстаннем з багуновымі балотамі?
Цяпер і я да ранку не засну,
Ноч прастаю з цыгаркай за варотамі.

Мне горкасць дыму ўскружыць галаву,
Ізноў пайду сцяжынай той асенняю,
З якой я бачыў: журавель махнуў
Крылом — яшчэ сустрэнемся.

## Прозавершы

### ЛЕТА АДНАГО СЛОВА

Гэта было тады, калі... Зрэшты, я не помню, калі гэта было. Магчыма, удзень, а магчыма — вечарам. Але хутчэй — раніцай. Якраз той, калі я, здаецца, шукаў слова. Забыўся — ці проста не ведаў — назву нечага зялёнага, што было паўсюль. Шаўкавістае, яно лашчыла ногі і нейкім чынам вязалася з летам. Помніцца, тады былі конікі. Малымі мы часта лавілі іх. Пасучы кароў, то было звычайнай забавай: злавіўшы, не пускаць, пакуль скакун гэты не расплоціцца з табой... Як цешыліся мы тады, малыя! І праз колькі гадоў, успамінаючы нешта, я знайшоў і тое, забытае ці проста нязнанае мною слова, паўсюдна зялёнае і шаўкавістае. Гэта было тады, калі... Прынамсі, не так і важна, калі ўвогуле гэта было. І ці было менавіта гэта. Ведайце толькі: слова тое — трава!

### ПАЭЗІЯ ВОСЕНІ

Хутка восень. Хутка зноў зачасцяць дажджы, палезуць грыбы і пойдуць у школу дзеці. Хутка і кветкі згінуць, а заместа іх застануцца на сумных дрэвах

адно мядзяныя пятакі лістоў. Кляновыя ці ясеневыя, асінавыя ці з каштанаў, мо з тыдзень ці два яны цешыцьмуць і маё вока. Дзеці берасцейцаў будуць вязаць іх у букецікі, а потым — выгодна збываць на аўтавакзале вяскоўцам, што ўдала ўтаргавалі і ціснуцца зараз ва ўсе аўтобусы, абы хутчэй як даперці дадому. Бо і каровы ад ранку нядоеныя, і свінні галодныя, і бульба стаіць некапаная. А суседавы дзеці, мусіць, абцерусілі да аднаго ўсе яблыкі на бліжняй да плота яблыні і кураць, стхорыўшыся дзе ў гумне ці за стогам саломы...

...Я таксама куплю табе адзін ліставы букецік. І папрашу ўкласці ў яго апошні верш свайго лепшага сябра. Не таму, што грудкі твае натхнілі яго на рэфлексію, якой трызнілі ўсе мае аднакурсніцы, уяўляючы сябе кожная яго каханкай, і не таму, што і сам, схмялелы ад валошкавых воч, радзімак і радзімчыкаў, рыфмаваў у адным сказе Беларусь і цябе. Проста ён мой сябра, і гэта мы прыдумалі, што хутка восень. Я — бо часцяць дажджы, лезуць грыбы і кветкі амаль што зніклі, а лісце становіцца мядзяным, як пятакі, ён — ...таму, мусіць, што хутка — восень.

## ВЫМУЧАНЫЯ ДУМКІ
## ПРА ВОСЕНЬСКІ НАСТРОЙ

Я не люблю восень. Восенню не цвітуць кветкі, не лятаюць матылі і нельга купацца ў лужынах. Восенню шмат лісця, яно ўвесь час чапляецца за ногі, шамаціць і дрэнна дзейнічае мне на нервы, і тады я злую. Злую на сябе, на людзей, на ўвесь свет, але найбольш — на гэта лісце. Яно псуе мне настрой. Таму я бяру граблі, зграбаю яго ў кучы і спальваю, спальваючы разам з ім і сваю злосць. Затым... А затым я іду ў парк. Там ёсць дрэва, з якім я магу выпіць на "брудэршафт" і прачытаць яму свае новыя вершы. Так, я люблю пісаць новыя вершы. Але яшчэ болей люблю хадзіць па лужынах. Шкада, што ў іх не водзіцца рыба і нельга плаваць. Плаваць я хаджу ў гарадскі басейн, там чыстая вада, але рыбы таксама няма. Я ведаю, што яна ёсць у рацэ, аднак бачыць яе мне не даводзілася. Бо я не люблю і ваду. Я проста люблю стаяць у лужынах.

Таму і пра восень пісаць я не хачу. Я напішу лепей пра дзеда, ён загінуў у сорак трэцім годзе і яму было тады столькі ж, як мне зараз. Асенняя лістота прысыпала сцежку, і ён падарваўся на міне. Ягоная кроў была такой жа чырвонай, як і пабітае асколкамі кляновае лісце.

Дзеда пахавалі, а я не люблю восень. Восенню ў мяне амаль заўсёды бывае дрэнны настрой, і я злуюся. На сябе, на людзей, на ўвесь свет. Але найбольш — на лісце. Тады я знімаю чаравікі і заходжу ў лужыну. Там няма рыбы, але і лісце там не шамаціць. Я супакойваюся, бяру пляшку гарэлкі і іду. У парк.

З М Е С Т

Литературно-художественное издание
Стихи
ТОЛЬ В. СВИДЕТЕЛЬСТВО О РОЖДЕНИИ
ПСЕВДОНИМ Виталий. ТЕНЁТА
Минск, журнал "Молодость", на белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне
Вершы
ТОЛЬ В. ПАСВЕДЧАННЕ АБ НАРАДЖЭННІ
ПСЕЎДАНІМ Віталь. ЦЯНЁТЫ
Мінск, часопіс "Маладосць", на беларускай мове

Галоўны рэдактар Г. Далідовіч
Рэдактары В. Гардзей, К. Камейша
Мастацкі рэдактар У. Малахаў
Камп’ютэрная вёрстка В. Марынчанка
Карэктар Н. Доваль
Камп’ютэрны набор Н. Гулейчык

Адрас рэдакцыі: 220013, Мінск, вул. Б.Хмяльніцкага, 10а.
Падпісана да друку 29.12.99. Фармат 84x108 1/32. Друк афсетны. Умоўн.
фарбаадб. 2,21. Умоўн. друк. арк. 1,68. Ул.-выд. арк. 1,57. Тыраж 434 экз.
Зак. 3085. Цана па падпісцы 90 000 р., у розніцу— 150 000 р.
Надрукавана з арыгінал-макета рэдакцыі ў друкарні выдавецтва
"Беларускі Дом друку. Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.

Бібліятэка часопіса "Маладосць" зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Рэг. нум. 371.